# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 29 (542) 17 ЛІПЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.


## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

29 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Галоўнай тэмай пасяджэння была абмяркоўка бюджэту на 1967 год і звязаныя з гэтым расходы і даходы БГКТ. Між іншым пастаноўлена значна пабольшыць суму грошай на выдавецтва, выдаць грампласцінку з II беларускімі песнямі ў выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага (яна была найграная ў час яго пабыўкі на Беласточчыне ў мінулым годзе) і зрабіць захады адносна дазволу і калі гэта будзе магчыма, пакупкі аўтокара.

У чэрвені пашыранае Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай з удзелам намесніка міністра Унутраных спраў тав. Зыгфрыда Шнэка абмяркоўвала дзейнасць нацыянальных меншасцей. Удзельнік гэтай нарады Уладзімір Юзвюк паінфармаваў членаў Прэзідыума ГП БГКТ аб тых справах, якія закраналіся на пасяджэнні пашыранага прэзідыума ВРН. (мх)

## У ПОШУКАХ ЛЕПШАГА

Аб тым, што на Беласточчыне цяжка знайсці добрую працу, ведае ўся Польшча. Невыпадкова сюды кіруюцца вярбоўшчыкі, бо ў нас невычэрпныя паклады рабочай сілы. Як паведамляе «Палітыка», у Варшаве некаторыя фірмы ўстанавілі нават па 200 злотых прэміі за звербаванне новага рабочага. У беластоцкім ваяводскім пасрэдніцтве працы можна знайсці заяўкі цэнтральнапольскіх фірмаў, якія гатовы забраць да сябе ўсіх абсальвентаў нашых прафесіянальных школ. Беластоцкія ўлады часткова адкідаюць такія заяўкі, кіруючыся інтарэсамі развіцця мясцовай эканомікі. Заяўкі можна адкідаць, але Беластоцкае ваяводства — гэта не нейкая незалежная дзяржава, і выехаць з Беласточчыны можа кожны, каму захочацца. З апошніх даных (за 1965 г.) вынікае, што 479 абсальвентаў прафесіянальных школ і тэхнікумаў не прыняло прапанаванай ім працы — значыць, пашукалі яны сабе лепшай працы ў іншых ваяводствах. У сярэднім пятая частка абсальвентаў адразу, яшчэ на школьнай парце, пастанаўляе выехаць па-за Беласточчыну, рэшта рашаецца на тое пасля экзаменаў і мясцовых перагавораў наконт прапанаванай ім працы.

Нядаўна гайнаўскае пасрэдніцтва працы адмовілася праводзіць набор рабочай сілы ў цэнтральную Польшчу, таму што не хапае яе ў самой Гайнаўцы. У месяцы лютым было: 20 мужчын шукаючых працы і 103 вольныя ім месцы працы; у месяцы сакавіку было: 6 мужчын шукаючых працы і 141 вольнае ім месца працы; у месяцы маі: 10 мужчын — і 191 месца. Чаму гэтыя мужчыны не бяруцца за працу? Вядома, бяда іх не цісне і чакаюць лепш платных месц — некаторыя чакаюць нават цэлы год або і больш. На горш платныя месцы, як бачым, няма аматараў.

Сярод паветаў з беларускім насельніцтвам Гайнаўскі павет належыць да найбольш індустрыяльных, тут існуе даволі развітая прамысловасць. Здавалася б, праца на месцы. Тым часам з Гайнаўшчыны выязджае вельмі многа людзей, у сярэднім па 7 асоб з тысячы (пад гэтай тысячай разумеецца і малых і старых). Вось афіцыйныя падлікі гэтых выездаў: у 1964 г. — 8,0 асоб, у 1965 г. — 6,4 асоб. Цалкам зразумелая справа, што яшчэ больш выязджае з Бельшчыны, якая з'яўляецца ўбогім суседам фабрычнай Гайнаўкі. Усялякія рэкорды ў выездах пабівае аднак Сакольскі павет (13 асоб!) — а таксама Сямяцікі і Дуброўскі паветы (адпаведна: 9,6 і 9,0).

У Ваяводскай радзе дакладна падлічылі мне, што за 1965 год выпісалася ў іншыя ваяводствы з Сакольскага павета 418 асоб, прыпісалася — 227 асоб. З Гайнаўскага павета выпісалася «ў Польшчу» 397 асоб, прыпісалася з іншых ваяводстваў — 265 асоб; у Дуброўскім павеце падобныя лікі складаюцца: 222 асобы — і 168 асоб.

Падаючы ўсе даныя аб выездах — у Ваяводскай радзе зрабілі мне дзве заўвагі:

па-першае, гэтыя даныя ўзяты з прыпісных («мэльдунковых») кніг. Аднак, у так званых, мэльдунковых бюрах існуе вялікі балаган, не зліквідаваны па сённяшні дзень. Таму цяжка ўстанавіць праўдзівыя лічбы, якія ў сапраўднасці, праўдападобна, з'яўляюцца значна большымі;

па-другое, трэба памятаць, што лічбы выпісаных і прыпісаных, пераважна, датычаць тых самых асоб, якія на нейкі час выехалі на працу, «вымэльдаваліся», потым вярнуліся назад і прыпісаліся («замэльдаваліся»). Напрыклад, у выпадку сезонных работ.

У сувязі з гэтымі выясненнямі тым выразней відаць тую масу людзей, якія назаўсёды пакідаюць свае мясціны, не бачачы годных перспектыў для сябе на месцы. Пакідаюць нас маладыя, найбольш энергічныя і працаздольныя людзі. Вялікія індустрыяльныя цэнтры Польшчы ўсмокчуць кожную масу гэтых нашых «беластоцкіх эмігрантаў». Там лягчэй знайсці добра платную работу.

На тысячу чалавек выязджае з цэлага Беластоцкага ваяводства ў сярэднім каля трох асоб. Гэты працэс адплыву людзей з Беласточчыны з'яўляецца нармальным з увагі на сельскагаспадарчы характар перспектыў нашага ваяводства, якому ніхто не прарочыць вялікай прамысловасці. Нас, беларусаў, непакоіць толькі наша вялікая гаспадарчая адсталасць у параўнанні з іншымі беластоцкімі паветамі. З прычыны адсталасці нашай гаспадаркі трацім мы свае прадукцыйныя сілы ў тры- чатыры- пяць разоў больш, чым рэшта Беластоцкага ваяводства. Гэта адбіваецца на грамадска-культурным развіцці беларускага насельніцтва, аб чым мы ўжо не раз пісалі ў «Ніве». Праб-

(Працяг на стар. 5)



## ПЯСНЯРКА РЭВАЛЮЦЫІ

15 ліпеня — 90 год з дня нараджэння першай беларускай паэтэсы Цёткі (1976—1916).

Цётка (Алаіза Пашкевіч) нарадзілася ў вёсцы Пяшчаны Лідскага павета былой Віленскай губерні ў сялянскай сям'і. У 1904 годзе ў Вільні Цётка прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе. Праследванні паліцыі прымусілі яе выехаць у Галіцыю. Там яна выдала ў 1906 годзе два зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», а таксама «Першае чытанне для дзетак — беларусаў» і «Падарунак для малых дзяцей». У 1913 годзе Цётка вярнулася ў Беларусь, дзе рэдагавала і выпускала першы часопіс для моладзі «Лучынка». У сваіх творах паэтэса расказвала аб цяжкай долі сялян, заклікала да ўсенароднага паўстання супраць самадзяржаўя. Асобныя вершы паэтэсы друкаваліся ў якасці рэвалюцыйных пракламацый.



## Музыкант Беларускі

*Заграю на дудцы,*
*Вытну на гармоні,*
*Заплачу на скрыпцы*
*Аб мужыцкай долі.*

*Надта ж ужо цяжка,*
*Душа з гора рвецца,*
*Слёзы так і льюцца,*
*Сэрца з болю б'ецца.*

*Ну і грай жа, скрыпка,*
*Хай ляціць там песня,*
*Або свет пачуе,*
*Або душа трэсне.*

*Скрыпка хутка плача —*
*Аж лес лямантуе,*
*Толькі яе ноты*
*Сыты не пачуе.*

*Хаця ж і пачуе —*
*Музыканта злае:*
*«Глядзі, ён, хамула,*
*Аб роўнасці бае».*

*Ды так сыпну смыкам,*
*Як агнём па струнах,*
*Што ад майго грання*
*Людзі енкнуць ў трунах.*

*Ну, дык плач жа, скрыпка,*
*Мо' паны пачуюць,*
*Як хамы без хлеба,*
*Без страхі начуюць.*

*І зацяў музыка*
*Смыкам ды па струнах —*
*Пташкі задрыжалі,*
*Пчолы сціхлі ў вуллях.*

*Музыкант галосіць,*
*Скрыпка не махлюе,*
*Хутка «хамску» песню*
*Увесь свет пачуе.*



Перад жнівам

Фота У. Паўлючук

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВАЖНЫЯ ДЭКЛАРАЦЫІ

Найбольшае зацікаўленне ва ўсім свеце, у мінулым тыдні, выклікала апублікаванне дзвюх дэкларацый з нарады Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавору ў Бухарэсце.

Амаць у цэлым свеце згодна сцвярджаецца, што **дэкларацыя ў справе В'етнама вельмі рашучая і катэгарычная.** Перад усім дзяржавы-ўдзельніцы Варшаўскага дагавору заяўляюць, што і ў далейшым будуць дапамагаць В'етнаму ў розных галінах уключна са зброяй і павялічваць яе, а такмаса, калі пажадае таго урад ДРВ, вышлюць сваіх добраахвотнікаў. Адначасова дэкларацыя сцвярджае, што в'етнамскую праблему можна і трэба вырашыць абапіраючыся на жэнеўскія дагаворы. Трэба адзначыць, што амерыканская эскалацыя сустрэлася з рашучай контрэскалацыяй.

Другі дакумент нарады разглядае **справы Еўропы і яе бяспекі.** Між іншым, сцвярджаецца тут, што асноўную небяспеку стварае палітыка Фэдэратыўнай Рэспублікі Германіі, якая знаходзіцца ў змове з ЗША. Дэкларацыя падае розныя і ўсебаковыя прапановы. Удзельнікі нарады, між іншым, сцвярджаюць, што калі перастане існаваць блок НАТО, яны гатовы развязаць Варшаўскі дагавор. Калі б заходнія дзяржавы не былі гатовы да цалкавітай ліквідацыі, дэкларацыя прапануе зліквідаваць ваенныя арганізацыі абодвух блокаў, пакінуўшы палітычныя.

### ВЫСТАЎКА І ВІЗІТ

У Маскве адкрылася выстаўка англійскіх тавараў. Мае яна характар чыста гандлёвы. І ўсё было б нармальна, калі б не тое, што 17 ліпеня г. г. выбіраецца яе наведаць прэм'ер Вільсан. Гэтая паездка з'яўляецца нечаканай, таму што не прадбачвалася яна ў плане паездак англійскага шэфа. Наведанне выстаўкі з'яўляецца толькі афіцыяльнай прычынай. Вільсану разыходзіцца пра тое, каб сустрэцца з савецкімі кіраўнікамі дзяржавы ў актуальна існуючай міжнароднай абстаноўцы. Гэтым хоча ён задаволіць левых яго партыі, якія штораз часцей і мацней пачынаюць крытыкаваць палітыку ўрада.

### ЭВАКУАЦЫЯ

З прычыны насільваючыхся бамбардзіровак амерыканскімі самалётамі Ханой далей праводзіцца эвакуацыю насельніцтва са сталіцы. Штодзённа сотні людзей грузавікамі, аўтобусамі а нават веласіпедамі выязджае з горада. Адначасова эвакуіруюцца са сталіцы прадпрыемствы, установы, аховы здароўя і некаторыя адміністрацыйныя ўлады.

### У ІНДАНЕЗІІ

Народны кансультатыўны кангрэс прыняў рашэнне, якое пазбаўляе Сукарна тытула «пажыццёвага прэзідэнта». Тытул Сукарна мае захаваць да часу выбараў, якія павінны адбыцца не пазней як 5 ліпеня 1968 года. Кангрэс пастанавіў таксама паклікаць камісію, якая праанализуе палітычную навуку прэзідэнта Сукарна. Прэзідэнт Сукарна згадзіўся з пастановамі кангрэса. Генерал-маёр Сухарта — старшыня выканаўчай улады мае паклікаць новы кабінет да 17 ліпеня гэтага года (дзень нацыянальнага свята Інданезіі). Кабінет мае складацца з 20 чалавек. Кабінет Сукарна быў 50-ціасабовы. **(А. К.)**

## БССР

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

У Мінску 30 чэрвеня адбылася сесія Акадэміі навук БССР прысвечаная праблемам меліярацыі. У рабоце сесіі прынялі ўдзел работнікі навуковых установ АН БССР, даследчых інстытутаў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай паласы, Інстытута водных праблем.

Сесія аднадушна адобрыла рашэнні майскага Пленума ЦК КПСС. У прынятай пастанове адзначаецца, што важнейшай задачай вучоных і спецыялістаў рэспублікі з'яўляецца пашырэнне тэарэтычных і прыкладных даследванняў у галіне меліярацыі, распрацоўка больш прагрэсіўных метадаў асушэння зямель, навукова абгрунтаваных рэкамендацый па вядзенню інтэнсіўнага земляробства.

### ЦАЛІННЫЯ АТРАДЫ

30 чэрвеня пяць цалінных атрадаў з ліку студэнтаў медыцынскага і педагагічнага інстытутаў адправіліся на работу ў калгасы і саўгасы Казахстана.

На працягу двух месяцаў будучыя настаўнікі і ўрады будуць узводзіць у Казахстане жылыя дамы, клубы, гаспадарчыя пабудовы. Многія студэнты накіраваліся на цалінныя будоўлі ўжо трэці раз.

### НОВЫ ФАКУЛЬТЭТ

У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Магілёве створан новы — дзевяты факультэт. Ён будзе рыхтаваць інжынераў новай спецыяльнасці — механізацыі гідрамеліярацыйных работ. На першы курс факультэта будзе залічана 50 чалавек.

Цяпер у акадэміі займаецца звыш дзевяці тысяч студэнтаў і аспірантаў. Тут рыхтуюцца аграномы: садаводы, агароднікі, селекцыянеры і лугаводы, заатэхнікі, механізатары сельскай гаспадаркі, землеўпарадчыкі і эканамісты. У гэтым годзе на вучобу ў акадэмію прыйдуць яшчэ 825 юнакоў і дзяўчат.

### У КАМІСІІ ПА СПРАВАХ НЕПАЎНАЛЕТНІХ

У Мінску 29 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх пры Савеце Міністраў БССР. На ім заслуханы справаздачы аб рабоце камісій па справах непаўналетніх пры Брэсцкім абласным і Мазырскім гарадскім выканкомах Саветаў, з якімі выступілі намеснік старшыні Брэсцкай абласной камісіі Н. П. Гулевіч і старшыня Мазырскай гарадской камісіі Н. Г. Бобр.

Камісія прыняла адпаведныя пастановы.

### ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося першае пасля з'езда пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

На пасяджэнні ішла гаворка аб падрыхтоўцы да правядзення 60-годдзя з пачатку літаратурнай дзейнасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, 90-гадовага юбілею Цёткі (Алаізы Пашкевіч), 75-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. (п)

## ПОЛЬШЧА

### ВЯРТАННЕ З БУДАПЕШТА

7 ліпеня вечарам вярнулася з Будапешта ў Варшаву польская дэлегацыя, якая прымала ўдзел у нарадзе Палітычнага дарадчага камітэта дзяржаў — членаў Варшаўскага дагавору. Узначальваў дэлегацыю І сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП — Уладзіслаў Гамулка. У склад дэлегацыі ўваходзілі: старшыня Рады Міністраў — Юзэф Цыранкевіч, сакратар КЦ — Зэнан Клішка, міністр замежных спраў — Адам Рапацкі, міністр нарадовай абароны, маршалак Польшчы Мар'ян Спыхальскі, шэф Генеральнага штаба Войска польскага ген. дыв. Войцех Ярузэльскі.

### ЧЫГУНАЧНАЯ КАТАСТРОФА

6 ліпеня ў 3 гадзіны раніцы здарылася на чыгунцы ля Варшавы катастрофа; з невядомых прычын сышоў з рэек цягнік Жэшаў — Люблін — Устка. У час катастрофы знішчаны быў адзін спальны вагон, а 6 вагонаў і паравоз перавярнуліся. У час катастрофы 6 асоб цяжка раненых, а 15 — лёгка. Рэшта пасажыраў (каля 150) засталіся цэлымі.

### 22 ЛІПЕНЯ — ПАРАД ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Кульмінацыйным акцэнтам апошняга года ўрачыстасцей Тысячагоддзя Польскай дзяржавы будзе святкаванне 22 ліпеня — Дня Адраджэння. Цэнтральныя ўрачыстасці адбудуцца ў Варшаве. Асноўным пунктам праграмы 22 ліпеня будзе вайсковы парад, які стаецца аглядам абароннай сілы нашай дзяржавы, а з другога боку — будзе навязаннем да найлепшых традыцый польскай зброі на працягу тысячагоддзя.

Парад складацца будзе з дзвюх частак: гістарычнай і сучаснай. У частцы гістарычнай можна будзе ўбачыць «Вояў Хробрага», «Пераможцаў над Крыжаносцамі», «Гусараў», «Жаўнераў нацыянальных паўстанняў» і т.п. У частцы сучаснай убачым новую найбольш дасканалую зброю нашай арміі.

### ЗНІЖЭННЕ ЦЭН

Ад 4 ліпеня зніжаны цэны насення лубіну, сарадэлі, вікі і пялюшкі. Мае гэта дапамагчы сялянам у шырэйшым забеспячэнні ў насенне гэтых раслін, а наступна ў выкарыстанні іх, як «паплёнаў», пасля жніў.

### 18 НОВЫХ ГАТУНКАЎ БУЛЬБЫ

«Эпока», «Флёра», «Флісак», «Гевант», «Уран», — гэта толькі некаторыя з 18 новых гатункаў бульбы выгадаваных польскімі вучонымі. На атрыманне новага гатунку, які б надаваўся да распаўсюджвання, патрэба каля 13 гадоў працы. Большасць выданых у краіне гатункаў бульбы выгадавана ў Інстытуце гадоўлі і акліматызацыі раслін.

У гэтым годзе прадбачваецца распаўсюджванне некалькіх новых гатункаў бульбы. Клопатам вучоных з'яўляецца выгадаванне бульбы адпорнай на ўсё больш распаўсюджаныя вірусныя захворванні. З гэтай мэтай прывозіцца з Амерыкі дзіка растучыя там гатункі і крыжуецца іх з рознымі гатункамі нашай бульбы

## ВАЯВОДСТВА

### МІТЫНГІ І ПРАТЭСТЫ

Злачынскія бамбардзіроўкі амерыканскімі самалётамі мірных в'етнамскіх гарадоў выклікалі шырокую хвалю масавага пратэсту ў фабрыках і прадпрыемствах Беласточчыны.

Пратэстацыйныя мітынгі адбыліся ў фабрыцы плюшу, у Беластоцкім прадпрыемстве змеханізаваных работ, у Беластоцкім прадпрыемстве санітарных інсталяцый, у прадпрыемстве «Фасты» і ў многіх іншых прадпрыемствах Беластока і Беласточчыны. У рэзалюцыі прынятай работнікамі фабрыкі плюшу чытаем між іншым:

«Амерыканская агрэсія стварае пагрозу для сусветнага міру, якога так жадае кожны чалавек. Памятаем, як гінуў ад бомб і гітлераўскіх куляў наш народ, як гінула і гарэла наша маёмасць. Таму заклікаем амерыканскі народ: не дазвольце мардаваць нявінных чалавечых істот у В'етнаме! Патрабуем і заклікаем: пакіньце В'етнам для в'етнамчыкаў, хай самі вырашаюць аб сваім лёсе».

### НАЙВЫШЭЙШЫ БУДЫНАК У БЕЛАСТОКУ

Найвышэйшы будынак у Беластоку пабудаваны будзе ля вакзала Спулдзельняй мешканёвай «Сям'я чыгуначнікаў». Будзе ён мець 11 паверхаў і змесціць 260 памяшканняў. Будова пачнецца ў наступным годзе.

### ЭКСКУРСІЯ НА ПАРАД 1000-ГОДДЗЯ

Камплектуецца зараз 520-асабовая экскурсія прадстаўнікоў беластоцкай вёскі, якія 22 ліпеня паедуць аўтокарамі «Грамады» ў Варшаву на вялікі парад Тысячагоддзя. Напярэдадні ўрачыстасці ў Варшаве ўдзельнікі экскурсіі правядуць час у Беластоку, дзе прымуць, між іншым, удзел ва ўрачыстай сесіі Ваяводскай, Павятовай і Гарадской радаў нарадовых Беластока.

### ПЕРАД ЖНІВАМ У ПГР

Ваяводскае аб'яднанне ПГР прадбачвае, што ў жніўнай акцыі ПГР-аў у гэтым годзе прыме ўдзел каля 7 600 асоб. У тым ліку 3 400 асоб складаюць пастаянныя працаўнікі ПГР-аў, а 1 790 — жнеяў — гэта будзе моладзь з ОГП. Апрача таго, дапамагаць будзе войска і сяляне з акалічных вёсак. Каб жніўную акцыю правесці магчыма як найбольш спраўна, улады ПГР арганізуюць конкурс на найлепшых жнеяў. Акцыя мае адбывацца пры дапамозе 149 камбайнаў, якія сажнуць каля 60 працэнтаў пасеваў. Арэал збожжавых культур у ПГР раўняецца плошчы 25 155 тыс. гектараў.

### ДАРОЖНЫ КАНТРОЛЬ

У днях 3 і 4 ліпеня міліцыя пры дапамозе ОРМО сарганізавала на дарогах Беластоцкага ваяводства моцна насілены кантроль дарожнага руху. У выніку — 97 асоб затрыманых было за кіраванне самаходамі ў п'яным выглядзе. 65 асобам адабралі правы язды і выступілі да аддзелаў камунікацыі з прапановай пазбаўлення іх на даўжэйшы час. Адначасова адкрыта 1022 іншыя дарожныя злачынствы, за якія 832 асобы былі пакараныя мандатамі на агульную суму 35 125 злотых.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 17. VII.**

14.00 Program dnia; 14.05 „Koń, który mówi" — film; 14.30 „Muzyka w Łańcucie"; 15.00 PKF; 15.10 „Na przykład Budzów" — program red. wiejskiej; 15.40 Dla dzieci: „Czar stołowej nogi"; 16.00 Film fab.; 17.30 „Świat, obyczaje, polityka"; 17.55 „Profesor Kowalski" J. Ponityckiego odc. I; 18.40 „Kredowe miasta — Chełm" — rep. film.; 18.55 „Spotkanie z poetą" — Zbigniew Bieńkowski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Wielki Finał Festiwalu Muzyki Nastolatków; 22.00 Niedziela sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 18. VII.**

17.25 Program dnia; 17.30 Informator handlowy; 17.40 Dla młodych widzów: „Malta 1966" — rep. z Międzynarodowego Pionierskiego Obozu Pokoju w Chorzowie; 18.05 „Żniwa"; 18.20 „Kino Krótkich Filmów"; 18.50 „Obywatelski egzamin" — dyskusja; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 III TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: Maksym Gorki „Dzieci słońca"; ok. 21.50 „Eureka"; 22.30 Dziennik TV.

**WTOREK, 19. VII.**

10.00 „Morowa mama" — film fab. CSRS; 11.25 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Meksyk — Urugwaj; w przerwie ok. 17.15 Wiadomości dziennika TV; 18.15 „Asacjacje" — teleturniej; 18.45 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Portugalia — Brazylia; w przerwie ok. 20.15 Dziennik TV; 21.30 „Morowa mama" — film fab. CSRS od lat 16.

**ŚRODA, 20. VII.**

10.00 „Baron" — film; 10.50 Przerwa; 17.30 Program dnia; 17.35 PKF; 17.45 Wiadomości dziennika TV; 17.50 Dla młodych widzów: „Operacja 1001"; 18.25 TV Kurier Warszawski; 18.40 „Wieczory w Łazienkach" — program Red. Historycznej Wszechnicy TV; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Chile — ZSRR; w przerwie ok. 20.15 Dziennik TV; 21.30 „Baron" — film; 22.20 „Światowid".

**CZWARTEK, 21. VII.**

16.20 Program dnia; 16.25 Program tygodnia; 16.45 Wiadomości dziennika TV; 16.55 Święto Odrodzenia Polski — Uroczysta Sesja PRL; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Album Polski"; 20.20 „Ulica Portowa" (ballady morskie) — program muzyczny; 20.50 „Buty" — film („Dzień ostatni, dzień pierwszy"); 21.20 „Ostotni kurs" — film fab. polsk. od lat 16; 22.50 Dziennik TV; 23.05 „Zakochani z Ostendy" — film. program rozrywkowy.

**PIĄTEK, 22. VII.**

9.50 Defilada wojskowa z okazji Święta Odrodzenia i 1000-lecia Państwa Polskiego; ok. 12.00 „W kręgu Tysiąclecia" — montaż film.; 13.05 Program dnia; 13.10 „Rewia Amatorskich Zespołów Artystycznych"; 14.00 „Tramp" — mag. turystyczno-krajoznawczy; 14.20 „Historia żółtej ciżemki" — film fab. polsk.; 15.40 „Powrót do hal" — („Spotkanie z Tysiącleciem"); 16.05 „W cyrku" — film radz.; 17.05 Estrada Literacka: „Patrząc na Polskę"; 17.35 „Wizyta u królów" — film („Dzień pokoju"); 18.05 „Kraj nad Wisłą i Odrą" — teleturniej; 19.05 „Trzy pieśni w wykonaniu St. Wojtowicz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.15 Kabaret Starszych Panów: „Zaopiekujcie się Leonem"; 21.15 Film fabularny; 22.45 Dziennik TV; 23.00 Wiadomości sportowe.

**SOBOTA, 23. VII.**

13.30 Program dnia; 13.35 „Kochana rodzinka" — film z udziałem Flipa i Flapa; 14.50 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Mecz ćwierćfinałowy; w przerwie ok. 15.45 Film (Katowice); 16.45 Wiadomości dziennika TV; 16.55 Dla młodych widzów: „Szlakiem podróży kpt Coock'a", film; 17.45 Dla młodych widzów: „Lgia Entuzjastów Wakacji"; 18.15 „Muzyka w Łańcucie"; 18.45 Tele-Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Rewia na wodzie" — program rozrywkowy; 20.50 Dziennik TV; 21.05 Wiadomości sportowe; 21.15 „Cud zdarza się tylko raz" — film fab. franc. od lat 16; 22.50 „Wieczór z Julie Andrews" — film. program rozrywkowy.



Мастацкі калектыў Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы выступае на фестыне БГКТ у Семяноўцы.
Фота М. Хмялеўскі

# КЛУБ ліцэіста

## ЦЯЖКАЯ ДОЛЯ

Наступіў май. Разам з ім прышлі цёплыя дні вясны. На поле пачалі выходзіць людзі, каб пачаць сваю працу, каб адчуць шчасце, якое ім прынясуць цёплыя майскія дні. Недзе далёка згінаецца постаць старой бабулькі, якая садзіць бульбу, хоча дачакаць разам з усімі лета. За ёю ідзе павольна конь, цягнучы за сабою цяжкі плуг. Перад канём бабулька ледзь-ледзь здолела выскачыць з радка. Работа гэтая ёй не пад сілу, ну, але з чаго ж яна будзе жыць, як не будзе працаваць. Каб мела хоць адно дзіцё, было б лягчэй. Мела яна трое дзяцей: двух сыноў і адну дачку. Коля забыў родную маці. Добра, што яна, паклаўшы апошнія сілы, вывучыла яго. Цяпер ён сядзіць у горадзе і не думае пра бедную, якая так цяжка на старыя гады мусіць працаваць. Напэўна ён ужо не вернецца з горада да той, якая яго выгадавала. Так заўсёды бывае з хлопцамі. Другі сын, Міша, загінуў у час вайны. Належаў да якойсьці арганізацыі, жандармы даведаліся, арыштавалі і павесілі. Колькі слёз праліла па ім. Не забудзе бабуля яго ніколі. Каб жыў Міша, напэўна бабульцы не давялося б працаваць на полі. Дачку, Марусю, забіў гітлеравец за тое, што яе муж быў у партызанах. Чорныя вочы бабулі плакалі і па Марусі. Мае старога мужа, ды той хворы. Недалёкі час дзеліць яго ад магілы. Застанецца сама, бедная старая, у пахілай хатцы. Цяпер у рабоце памагае ёй крыху сусед. Прыйдзе, дроў нарубае, вады прынясе, суседка падлогу змые. А хто паможа потым? Што будзе з бабулькай, ніхто не ведае. Цяжка, ох як цяжка ёй цяпер на гэтым полі. З кожным адгінаннем бабуля «вохкае». З-пад жоўта-зялёнай хусцінкі бліскаюць сівыя валасы. Калі хто ўспомніць пра Мішу, бабулька цяжка ўздыхае і сядае на ражок крэсла. У вачах свецяць дзве вялікія кроплі — гэта слёзы. Яна ведае, за што загінуў дарагі сын, дачка і многа іншых людзей. Яна гэта ўсё, усё добра ведае, але дзве гарачыя слязы падаюць на спрацаваныя рукі. Хутка выцірае іх. Больш не плача. Яшчэ яна чакае мужа Марусі. Мо ён вернецца.

У старых вачах блішчаць агеньчыкі гэтай надзеі. Мо яшчэ яе мары споўняцца. Мо ён вернецца, і старой не трэба будзе так цяжка працаваць для кавалачка хлеба.

**Галіна Засім**
Беларускі ліцэй
Гайнаўка

## АПОШНІЯ ХВІЛІНЫ

На калідорах пуста, ціха. Няма нікога. Я паволі іду на апошні паверх. Напроціў настаўніцкі пакой. Усмяхаюся ў думках. Прыпамінаю малую ліцэістку, якая праз некалькі мінут стаяла перад пакоем, баючыся ўвайсці. А вось і мой клас. Парты збітыя ў адну кучку, як патрывожаныя авечкі. Перад вачыма ўстае вобраз сяброў і сябровак, якія ў дзікім танцы, які напамінае танец неграў, радуюцца з пасведчання іх 18 лет, іх сталасці. Цяпер мы разышліся, ніколі не пабачу гэтага танца, гэтай звярынай радасці. Абцасы глуха стукаюць па калідоры, рэха ўзносіць гэты голас ва ўсе куткі і закамаркі. Так нядаўна абцасы ўсіх, згдна, выбівалі такт лецкіза. Баль. Колькі ж з ім вяжацца цёплых прыемных успамінаў. Размовы аб нядаўніх уражаннях мяшаюцца з музыкай. Потым зала пусцее. Запаўняюцца вуліцы маладымі галасамі і «дарослымі» крокамі. За тыдзень экзамены да новага жыцця. Каго яно не прыме, адкіне? Усім так хочацца хутчэй засмакаваць гэтага новага, нязведанага, дарослага. Хутчэй, хутчэй. Крокі плёскаюць па ступеньках сходаў, як град, у час летняй буры, па даху. Ціхнуць стрывожана на дарожцы перад школай. У галаве тысячы думак. Але адна мацнейшая. Каб хутчэй пачаць жыццё дарослае, каб не сядзець з заложанымі рукамі і жыць успамінамі. Апошні погляд на шэры будынак. Вокны блішчаць у праменнях сонца, яны здаюцца гаварыць:

«Не бойся. Усё будзе добра. Крыху адвагі. Ну, чаго ж плачаш?»

Гэтае запытанне застаецца без адказу, і толькі слёзы...

**Ірына**

## ЦЕНЬ.

Паток святла з неонаў
Вакол
Начная ціш
Марозна боль
Горад спіць.

Раптам
Раздаліся галасы
Радасныя, вясёлыя
То
З будынку новага
Ценяў тлум паплыў.

Вось і вуліц скрыжаванне
Ценяў хмара —
Раздзялілась, разышлась
Ва ўсе бакі.

Адна толькі вуліца пустая
Не
У яе
Павабны цень плыве.

Сам?
О не
За ім рослы цень ідзе
Пад нагамі снег скрыпіць
Сабакі брэшуць удалі
Ценяў хмары заціхаюць галасы
Час ад часу
У дрэў вяршынах
Вецер зашуміць.

І першы цень
Цень прыгожы мілы
Заўважыўшы другога
Прыспешыў крок
Пабег
Паляцеў як матылёк.

Уцякаць выдумаў?
Ад пачуццяў
Ці ад таго другога?

Яго уцечка не адпіхае
Ідзе павольна
Любуецца зарысам
Воку мілым.

Туга мучыць
Сэрца з болю ные
І здаецца
Вусны
З усмешкай іранічнай
Шэпчуць
— Ад мяне
Мо ты уцячэш
Но ад пачуццяў не
Будуць....
І цяпер
Бяжы
Бяжы —

Сам стаў за дрэва
І глядзіць услед.

Стаў і першы цень
Агляну́ўся
Ці назола не бяжыць .
Не.
Не бяжыць.
Не відаць яго.
Уцёк?

Ад пачуццяў
Не,
Не,
Напэўна не.

**МІКОЛА ІВАНЧУК**



Раіса Леўчук уручае кветкі дырэктару ліцэя.

## РАЗВІТАННЕ СА ШКОЛАЙ

Нядаўна ў Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску адбылося ўручэнне атэстатаў сталасці для 70-ці навучэнцаў. На ўрачыстасць развітання са школай прыбылі бацькі выпускнікоў, настаўнікі і прадстаўнікі павятовых і ваяводскіх асветных улад. У сваёй прамове дырэктар ліцэя Мікола Гайдук падкрэсліў пільнасць вучняў на працягу навучальнага года.

Пажадаў ён поспехаў у далейшай вучобе ўсім тым, якія пойдуць да вышэйшых школ. Прыемна адзначыць, што колькасць гэта даволі вялікая, 67 асоб злажылі дакументы ў розныя гарады на вышэйшыя навучальныя ўстановы. Найлепшым былым вучням дырэктар ўручыў кніжныя ўзнагароды. Выпускнікі прыпаднеслі кветкі сваім настаўнікам і выхавацелям.

На далейшую частку ўрачыстасці злажылася традыцыйная «лямпка віна» і танцавальная вечарына.

**Тэкст і фота П. Зінкевіч**



Ніна Кулікоўская і Валя Назарук аглядаюць атэстаты сталасці.



Ліцэісткі на чэрвеньскім маладзёжным злёце ў Беластоку.
Фота В. Касакоўскі

# ЮБІЛЕЙ СПР

Школ сельскагаспадарчага характару маем штораз больш, і рознага характару. Але СПР-ы — гэта своеасаблівыя школы. Завуць іх «школамі асяроддзя» між іншым таму, што пры рэалізацыі праграмы навучання бяруць пад увагу патрэбы і ўмовы асяроддзя, з якога рэкрутуюцца вучні. Супрацоўнічаюць з арганізацыямі і прадпрыемствамі асяроддзя. Іменна таму так вялікую ўвагу прывіваюць да іх працы і развіцця.

Трэба адзначыць, што развіваліся яны ў нашай краіне вельмі добра. Напрыклад, у 1956/57 навучальным годзе ў Польшчы было сарганізавана 55 СПР-аў з 1180 вучнямі, а ўжо наступны год прынёс 696 школ і 18 194 вучні. Зараз налічваецца вучняў СПР каля 100 тысяч.

На працягу дзесяцігоддзя існавання СПР Беластоцкае ваяводства атрымала 10 000 абсальвентаў. Калі б яны ўсе пачалі працаваць на гаспадарцы, то 15% гаспадарствамі кіравалі б адукаваныя гаспадары — «рольнікі».

Кожны юбілей гэта аказія да падсумавання дасягненняў і недахопаў. Адным са спосабаў падсумавання працы СПР-аў з'яўляюцца з'езды абсальвентаў. На адным з іх мы пабывалі ў Бельску Падляшскім.

У памяшканні Павятовага дома культуры сабраліся абсальвенты СПР і іх настаўнікі, кіраўнікі. На І-шы з'езд прыбыў таксама намеснік старшыні павятовай рады інж. Аркадзій Іванчук, былы настаўнік прафесіянальных прадметаў СПР. Бельскія СПР-ы скончыла 926 вучняў, з іх на гаспадарцы засталося 618 (66,6%). Самастойна гаспадарыць 88 абсальвентаў, апошнія працуюць з бацькамі. Многія вучацца ў тэхнікумах.

Цікавай і вельмі пазітыўнай з'явай з'яўляецца тое, што многія з абсальвентаў вельмі актыўна працуюць у асяроддзі. Сярод іх знойдзем солтысаў, радных, актывістаў ПАРП, ЗМВ, ЗСЛь. Напрыклад, Ліля Дамброўская з Гацькоў з'яўляецца старшынёй Павятовай рады дзяўчат.

На ўвагу заслугоўвае факт, што абсальвенты, якія канчаюць тэхнікумы, варочаюцца ў сваё асяроддзе. Абсальвент СПР у Малініках Міхась Іванчук пасля заканчэння тэхнікума працуе ў малачарскай спулдзельні ў Бельску і адначасова з'яўляецца студэнтам завочнага аддзялення Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Познані, Мікалай Турковіч з СПР Боцькі з'яўляецца настаўнікам СПР у Галёнках.

На працягу 10-годдзя СПР-ы пераходзілі многія перамены. Калі ў першых гадах існавання былі атаясамліваны з курсамі, то ў апошніх гадах авансавалі на прафесіянальныя школы, якія вучаць выкваліфікаваных спецыялістаў адной з важнейшых галін нашай гаспадаркі. Маюць яны штораз большыя перспектывы павышаць свае кваліфікацыі ў трохгадовых тэхнікумах. У гэтым годзе ў Беластоцкім ваяводстве будзе 8 такіх тэхнікумаў. Між іншым, у 1966/67 навучальным годзе будзе адкрыты тэхнікум пры эканамічным тэхнікуме ў Бельску. Многа ёсць дасягненняў СПР. Аб многіх мы ўжо пісалі.



На здымку: З дакладам выступае падінспектар мгр інж. Ліза Вжэцёнка.

Але гаворачы аб іх нельга не ўспомніць аб недахопах. Выплывалі яны ў час дыскусіі. Між іншым, не вырашанай з'яўляецца справа павышэння ведаў у завочных тэхнікумах ці вышэйшых школах. Разыходзіцца пра тое, што тыя з абсальвентаў, якія працуюць на гаспадарцы, вымушаны аплочваць кошты падарожжа і іншыя, у той час калі іх калегі, якія працуюць ва ўстановах, маюць аплачаныя кошты падарожжа і платны водпуск. Але нягледзячы на гэта назіралася вялікую гордасць, што іменна яны з'яўляюцца піянерамі сельскай гаспадаркі. Бельскія абсальвенты паказалі, што ўмеюць не толькі па-новаму гаспадарыць, але і гуляць.

Захапляючай была мастацкая частка з'езда ў выкананні вучняў СПР у Боцьках і Бельску.

Тэкст і фота **А. Карпюк**



На здымку: Абсальвенты бельскіх СПР-аў.

# У НОВЫМ СЕЗОНЕ

Канчаецца тэатральны сезон 1965/66 года. Але лета, як вядома, агуркі — кажам. Час скупы ў якія-небудзь культурныя здарэнні. На вёсцы летам таксама мала дзеецца ў культуры, бо поле кліча, яно дае працу звыш сіл. Толькі восень прыносіць патрэбу звароту. Напаўняюцца клубы, святліцы, спакою не дае думка, што і як рабіць?

Беластоцкі тэатр ад восені прапануе новы цікавы рэпертуар. У ім знойдуцца такія аўтары як: Уільямс — сучасны амерыканец «Шкляная менажэрыя», з польскіх Балуцкі «Радцы пана радцы», Выспянскі «Вызваленне», Мрожэк «Танго», Абрамаў «Дэрбы ў палацы», француз Лапе дэ Вега «Дзяўчына са збанам», англічанін Шоў «Цэзар і Клеапатра», немец Шылер «Спшысенжэне Феска ў Генуі», савецкі Астроўскі «І конь спатыкнецца».

Як бачым, будуць часы ад старажытных да сучаснага авангарду ў выглядзе Мрожка.

Кожны з аўтараў адлюстроўвае заўсёды суадносіны сваёй краіны і сваёй эпохі. Таму прапанаваны рэпертуар будзе аглядам эпох і краін, здарэнняў смешных і трагічных.

Прыпамінаем, што конкурс «Вёска бліжэй тэатра» прадаўжаецца, і інфармацыя аб новым беластоцкім тэатральным сезоне можа быць прыдатнай у будучых планах. (вл)

**P. S.** Загалоўкі п'ес падаю ў польскім гучанні для лепшай арыентацыі.

# ГАНДАЛЬ

На Гайнаўшчыне амаль у кожнай вёсцы ёсць новенькая мураваная крама, пабудаваная ў значнай меры пры дапамозе чынаў мясцовых людзей.

Ёсць крама і ў вёсцы Ваські. Тут поўны асартымент спажывецкіх тавараў, а таксама шмат прамысловых тавараў. Крама абслугоўвае толькі Ваські. Сярэдні грашовы абарот у месяц дасягае да 35 тысяч злотых. *(ся)*

# НЕБА Ў ВЕРАВАННЯХ

**Трэба сказаць, што справы касмалогіі не надта займалі ўвагу сялян. Народны светапогляд, які можна было б назваць наіўным сялянскім матэрыялізмам, прызнаваў існуючым, рэальным усё, што чалавек бачыў, чаго датыкаў. Такой відавочнай рэальнасцю выдаваўся яму купал неба. Паняцце бязмежных глыбіняў космасу, безлічы нябесных свяціл, велічы звёзд і аграмаднасці галактык — былі чужымі народнаму ўяўленню. Характэрным тым часам гэтаму ўяўленню было нешта іншае: вера ва ўзаемную сувязь паміж чалавекам і нябеснымі целамі, якая была часткай веры ў сувязь паміж чалавекам і прыродай наогул.**

**Нябесныя целы надзялялася пэўнымі характэрнымі для чалавека рысамі: маральнымі якасцямі, свядомасцю, а таксама верылася ў магчымасць уздзеяння гэтых цел на чалавечы лёс. Часам накіраваная да іх просьба можа настроіць сонца, месяц і зоры прыхільна да чалавечых спраў, часам патрэбнае тут таямнічае, магічнае слова, вядомае толькі некаторым.**

**І так, напрыклад, у замовах сустракаюцца непасрэдныя звароты да месяца-маладзіка. Перадаю тут дзве з іх запісаныя дасціпнымі этнографамі.**

**ЗАМОВА АД ЗУБОЎ**

**Замова І. (Закляцце трэба гаварыць гледзячы на малады месяц, можа яго гаварыць сам той, каму баляць зубы, але значна лепш, калі робіць гэта знахар).**

*«Малодзік малады, у цябе рог залаты, чарвяк точыць мае зубы, а ты патачы чарвяку губы!»*

Замова ІІ. *«На небі — месяц маладым, у лесі — дуб тоўсты, а ў полі камень седы; як етым тром царам умесці не бываць, меду — віна не піваць, так і маім зубам не шумаваць».*

**Ды наогул з месяцам, з пераменамі яго фазаў вязалася вельмі многа вераванняў ва ўздзеянне гэтых перамен на чалавека і ўсю прыроду.**

**Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца вераванне ва ўплыў «зменаў» месяца на пагоду. Захавалася яно сярод сялян да нашых часоў. У выпадку непагоды і зараз вядуцца паміж суседзямі размовы, падобныя да тае, якую этнограф занатаваў звыш паўстагоддзя таму назад.**

— *«Ось настане маладзік, той разнегодзецца.*

— *Чорта з два! Стары маладому як перадасць, то бывай здаровы на цэлы тыдзень».*

**З настаннем маладога месяца, паводле старых народных вераванняў, вяжацца ўзмацненне віталістычных сіл прыроды. І таму ў гэтую пару лічылася карысным: перасаджваць дрэўцы, бо лепш прымаюцца, касіць траву, бо хутчэй адрастае, стрыгчы валасы і гд. З гэтых самых прычын пры маладым месяцы не раілася: карчаваць хмызняку, бо астаўшыя ў зямлі карэнні адрастуць нанава, палоць пустазелле, бо безупынна будзе адрастаць, сеяць ільну, бо парасце вітухаю, пераколваць балячкі і гд.**

**Падобныя вераванні звязаны і са старым месяцам, падчас якога наадварот — наступае пэўны заняпад жыццёвых сіл натуры.**

**Каб выклікаць прыхільнасць месяца і іншых нябесных з'яў, аддавалася ім належную пашану. І так, напрыклад, нельга было «перад аблччам» месяца рабіць усякія «непрыстойнасці»: нельга, калі месяц свеціць на небе, спраўляцца з фізіялагічнымі патрэбамі, сварыцца паміж сабою, паказваць на яго пальцам.**

**Падобная пашана прыслугоўвала цару прыроды: сонцу. Ч. Пяткевіч падае нават малітву да сонца, якую штогод ў час святкавання вясенніх дзядоў гаварыла, звяртаючыся да сонца, бабуля-беларуска, па афіцыйным веравызнанні — каталічка. А вось тэкст гэтай, не пазбаўленай паэзіі, язычаскай малітвы:**

*«Сонейка яснае на небі, узайдзі ў іх непраглядныя цямніцы хоць адною пучынкаю светлаю, хоць адным маленькім валаском залаценькім, кропелькаю расы гаручаю, тваім святым агнём, хоць чэрвяком купальным».*

**З іншых нябесных свяціл, якія знайшлі сваё месца ў народных вераваннях на ўвагу заслугоўвае камета (мятла) і Млечны шлях (гусіная дарога). З паяўленнем каметы, сярод беларусаў, як і сярод іншых народаў, існавалі вераванні ў маючыя надысці няшчасці. Асаблівасцю тут аднак з'яўляецца наступная легенда:**

*«Канета (камета — П) перакідаецца ў чорную бабу, уночы ходзіць па селу дай піша вуглём на дзверах хрэсты, дзе паставіць чорны хрэст, у той хаці ўсе памруць. Затым то, як стаіць на небі, метла, трэба самому начыркаць хрэст на сваіх дзверах вуглем, то як прыйдзе чорная баба канета, дак пабачыўшы, што ўжо начыркано, пойдзе сабе думаючы, што гэта яна сама зрабіла дай неўпамкі».*

**Млечны шлях паводле старых вераванняў мае ўплыў на малочнасць кароў. Апрача таго:**

*«Як гусінаю дарогаю сплыве ўсё малако, то яна так пабялее, што кажная пціца чужастаронная знае, кудою ёй ляцець у цёмные края».*

**Вышэй апісаныя на падставе этнаграфічных матэрыялаў вераванні былі светапоглядам беларускага сялянства не пазней чым якіхсьці пяцьдзесят гадоў таму назад. Насоўваецца пытанне: якія зараз погляды нашых сялян у гэтых справах?**



**КРЭПАСЦЬ — ГЕРОЙ**

Легендарнай Брэсцкай крэпасці, якая прыняла на сябе першы ўдар гітлераўскіх полчышч, прысвоена ганаровае званне «Крэпасць — герой».

**На здымку: Холмскія вароты Брэсцкай крэпасці.**

# АТРУТА НА СЦЁБЛАХ ЖЫТА

Веснавым днём 1938 года нейкі Альберг Гофман, супрацоўнік швейцарскай фармацэўтычнай фірмы «Сандаз лімітэд» у горадзе Базелі атрымаў з грыбка, які звычайна селіцца на сцяблах жыта, кіслату, названую ім скарочана «ЛСД».
Магчыма, гэта рэчыва так і засталося б вядомым толькі супрацоўнікам фармацэўтычнай лабараторыі ў Базелі, калі б у 1943 годзе, праз пяць гадоў, той жа Гофман не ўдыхнуў выпадкова некалькі міліграмаў парашку ЛСД.

«Пачалося неверагоднае падарожжа ў невядомую дагэтуль стыхію, — запісаў доктар Гофман потым у сваім дзённіку. — Усё ў лабараторыі змянілася і набыло іншыя абрысы і іншую афарбоўку... Фантастычныя малюнкі дзівоснай пластычнасці і незвычайнай яркай афарбоўкі адзін за адным змяняліся ў маёй свядомасці...»
Гэта «падарожжа» Гофмана працягвалася каля васьмі гадзін.

А праз чвэрць стагоддзя бяскрыўдны выпадак у базельскай лабараторыі ўспудзіў Амерыку...

ЛСД — велізарнай сілы рэчыва, якое выклікае галюцынацыі. Магчыма, самае моцнае рэчыва з падобных яму ў свеце. Адна унцыя яго можа адправіць у ілюзорнае «падарожжа» 284 тысячы чалавек.

У нервова-перанапружаным Нью-Йорку ўжо нарадзілася панічнае меркаванне: «Калі сакрэтны варожы агент растворыць у гарадской сістэме вадаправодаў адзін фунт ЛСД, Нью-Йорк стане безабаронным. Амерыканскае міністэрства вайны спецыяльна займалася высвятленнем гэтай справы і сцвердзіла, што «такі план не мог бы быць рэалізаваны».

Праблема ЛСД узнікла ў апошнія два гады. Тры гады назад у Злучаных Штатах было зарэгістравана толькі дзесяць выпадкаў шпіталізацыі з прычыны ўжывання наркатычнай кіслаты. У мінулым годзе толькі ў адным Нью-йоркскім шпіталі «Бельвю» знаходзіліся на лячэнні 100 чалавек, якія атрымалі псіхічныя расстройствы ад ЛСД. Некаторыя лічаць, што ў шпіталь трапляе толькі адзін з дзесяці тысяч чалавек, якія прымаюць гэты наркотык.

Страшэнная небяспека ЛСД заключаецца ў тым, што, праглынуўшы аднойчы ў жыцці кавалак цукру з кіслатой і зрабіўшы васьмігадзіннае «падарожжа», чалавек доўгі час пасля гэтага, магчыма, усё жыццё знаходзіцца пад пагрозай вяртання ў свет галюцынацый.

Зваротныя з'явы ЛСД пакуль не могуць растлумачыць вучоныя. Некаторыя з іх лічаць, што кіслата выклікае значныя хімічныя змены мазгавога рэчыва.

Словам, моцна небяспечны гэты ЛСД!

(а-ся)

## ЗОЛАК — МАНЕТА

Шмат афрыканскіх краін уводзіць або намерана ўвясці ўласную манету замест англійскіх фунт-стэрлінгаў ці французкіх франкаў. Сваю манету ўводзіць незалежная афрыканская дзяржава Замбія. У 1968 годзе паявіцца там свая манета. Асноўнай платнай адзінкай будзе кваха, што ў мясцовай мове абазначае «золак» (світанне). Кваха дзеліцца на сто нгві, іначай кажучы, «промняў».
Аказваецца няпраўдай, што грошы не маюць нічога супольнага з паэзіяй...

(а-ся)

## БУЛЬБА ЯК МАСЛА

Гісторыя бульбы мае 300 год. Гэтая расліна прыйшла з Амерыкі. Бульба памагла нашым продкам адыйсці ад трохпалёўкі і выгнала голад з хат.

У 1964 годзе на аднаго жыхара Польшчы прыпадала 1545 кг. бульбы. Рэкорд у свеце! Але з'ядаем самі толькі па 223 кг на асобу ў год. Таксама рэкорд. Заходняя Германія з'ядае 139 кг, Швецыя — 90, Францыя — 100, Чехаславакія — 105.

**Усё аб фільме**

# ПАПУЛЯРНАСЦЬ ВАЙНЫ

Год 1966 на экранах Польшчы багаты фільмамі аб вайне. Такія ўбачым уласныя і купленыя за граніцай. Чэрвеньскі фільмовы бюлетэнь аж роіцца ад фільмаў аб вайне. Падам чытачу коратка іх назвы і тэмы (пішу ў польскім гучанні).

1) «Дон Габрыель» — польскі, зрэалізаваны вядомымі Эвай і Чэславам Пятэльскімі. Фільм уваскрашае верасень 1939 года. Расказвае пра лёс інтэлігента -спецыяліста па нямецкай мове і літаратуры, які не верыць, каб айчына вялікіх германскіх мысліцеляў і творцаў, магла распаліць вайну.

2) «Кобеты» (Женщины) — савецкі, расказвае аб лёсе трох жанчын з вёскі, якія ў выніку вайны знайшліся ў горадзе, не прыстасаваныя, загубленыя, часта не ўмеюць пакіраваць сваім жыццём.

3) «Дзвоны для дарослых» — чэхаславацкі, пра двух партызан, якія біруць у палон 16-цігадовага немца. Але вайна ўжо закончылася, што рабіць з палонным...

4) «У нядзелю а шостай» — румынскі. Год 1940 у Румыніі, лёс і любоў двух маладых людзей з антыфашысцкай канспірацыі.

5) «Дыялаг» — вянгерскі, спроба крытыкі перыяду памылак. Фільм выклікаў жывыя спрэчкі ў Венгрыі. Расказвае пра пасляваенныя цяжкія часы, калі людзей саджалася ў турму невядома за што.

6) «Зэмста ОАС» — французска-італьянскі. Паказвае іншую вайну. Алжыр 1961 года. Здарэнні, аб якіх было галасна ў свой час у свеце.

7) «Сцігані праз смерць» — французска-італьянскі. Францыя ў гады другой вайны. Жанчына і гестапа. Французскае супраціўленне.

8) «Поводзэня, Шарль!» — французскі. Калі ізраільскія камандосы ўкралі ў Паўднёвай Амерыцы Айхмана — выдарэнне сталася галосным, і многія рэжысёры ўзяліся за падобную тэму. Так паўстаў і ўспомнены вышэй фільм. Расказвае ён аб пошуках палітычнага злачынцы з часоў вайны. Зроблены як цікавы крымінал.

9) «Юарэз» — амерыканскі. Юарэз — магічнае слова і вялікае. Гэта чалавек-герой, правадыр мексіканскай рэвалюцыі, які вызваліў сваю айчыну з няволі. Фільм зроблены ў 1939 годзе і толькі цяпер трапляе на нашы экраны. Залічаны быў крытыкай да лепшых фільмаў года. (вл)

## КАНТРАКТАЦЫЯ КАЧАК

План кантрактацыі качак на бягучы год — 3 мільёны штук. Гадоўля качак на продаж у нас яшчэ слаба развітая, хоць вельмі паплатная. Качкі выгодна гадаваць. Чысты даход з адной штукі 18—20 злотых.



**На здымку: качая ферма Губіша з Дэмбіны ў Варшаўскім ваяводстве. (вл)**

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Ноччу страшнавата. Спадзяёмся — вось-вось палезуць астаткі рассеянага батальёна адбіваць сваіх. Раніцой выходзім у размяшчэнне нашай пяхотнай дывізіі, у вёску Случанку. Фронт ужо аддаліўся кіламетраў за дваццаць на захад, тут ідзе ўжо мірнае жыццё. У дзіўных для нашага вока пагонах фарсяць афіцэры. Ля калодзежаў спакойна мыюцца салдаты, абліваюць з вёдзер адзін аднаго, рагочуць, пояць коней.**
**Па вуліцы бегаюць толькі ўстрывожаныя цёткі, енчаць на хлопчыкаў:**

**— Пад машыны яшчэ трапіце, марш дадому!**

**Адно далёкі грукат артылерыі і няспынныя касякі штурмавікоў у бязмежнай вышыні напамінаюць аб баях.**
**Знаходзім штаб, здаём палонных. Генерал аб'яўляе нам падзяку, звяртаецца з прамовай. Нас спатыкае ад'ютант Вайцяхоўскага, перадае мне апошні загад:**
**— Партызан нікуды не адпускаць, трымаць на адным месцы. Спатрэбяцца для ачысткі лясоў!**

*

**Калонай валім у Страшава. Стаіць гарачыня. Хлопцы неахвотна валакуць абсмаленыя вёдры, катлы, запасы ежы, кулямёты — коней забралі ў абозы, падводы нідзе не дастаць. Абвешаны зброяй і ўсімі атрыбутамі камандзіра, валакуся і я. Бацька і маці даўно пабеглі ўпярод глядзець, што засталося ад хутара. Не церпіцца пра гэта даведацца і мне. Крочу і пільна азіраюся.**
**Каля вёскі, зводдаль ад дарогі, дзве жанчыны жнуць жыта. Ля іх поўзае дзіця. Непрыкметна адстаю ад калоны, зварочваю на пожню. Малодшая ўпіхае серп у сноп, ідзе насустрач.**
**Божа мілы, гэта ж... Ніна!**
**Худая, толькі цёмныя вочы ды каштанавыя косы такія, як калісьці. Страшэнна хочацца ўцячы, але ўсюды адкрытае поле! Нерашуча спыняюся. Ніна пазнае мяне, палохаецца таксама. Аблізвае парэпаныя ад спякоты вусны, апускае вочы. Доўга маўчым. Я, на галаву вышэйшы, гляджу на яе зверху. У вільготных валасах заселі кавалачкі саломінак, асцё. Краі выгаралай кофты адсталі і агалілі худыя і ўспатнелыя ключыцы. Па счарнелай руцэ паўзе зялёная гусенічка, выгінаецца пытальным знакам, пнецца на кофту. Жорсткая спадніца ў пяску. Разбітыя ступні босых ног. Не ведаю, што гаварыць, што рабіць. Пачынае доўжыцца. Уздыхаю і чула, як толькі магу, вымаўляю: — Эх, Ніна, Ні-іна...**
**У яе па твары цякуць слёзы, апускае галаву ніжэй. Успамінае нешта, узнімае галаву, на твары — скрыўленая ўсмешка.**
**— Алёшка, а ты тады клаў пісьмы і, мусіць, забыў, што я не ўмею пісаць, — гаворыць ціха, як бы з папрокам, і становіцца раптам блізкай, роднай. — Каму даць прачытаць саромелася, усё збіралася пагаварыць з табой, складала іх...**
**Нешта буркаю і зноў змаўкаем. Становіцца яе шкада.**
**Набліжаецца Настуся. Са штучнай радасцю жанчына папракае: — Ах, Алёшка, Алёшка, то чаму ты да нас ніколі не заходзіў ноччу?!**
**— Мама, не трэ! — крычыць Ніна.**
**— Ува ўсіх бываў, а нас мінаў. Хіба мы табе не сябры?**
**— Сціхніце, кажу вам, ну!..**
**— Хіба не далі б хлеба ці чаго другога, як іншыя людзі? На полі чуецца плач дзіцяці.**
**— Іду, То-олічак! — уздрыгвае Ніна.**
**— Ты куды, дачу-ушка, я сама! — палохаецца Настуся.**
**— Пабудзь тут...**
**Ніна цяжка ідзе да дзіцяці.**

**ЭПІЛОГ**

**Вызвалілі Беласток, саджуся на веласіпед, імчу туды. Косця даў адрас легендарнай Марусі, шукаю дом. На другім паверсе мураванкі налятае на мяне ўзрадаваная дзяўчынка — шчупленькая, слабенькая, са светлымі кудзеркамі.**
**— Каго шукаеце? — сур'ёзнеюць яе сінія вочкі.**
**— Партызанскую сувязную Марусю.**
**Дзяўчынка пырскае:**
**— «Марусяй» называецца цэлая арганізацыя!**
**— Та-ак?**
**— Та-ак! — пераможна смяецца яна. — А калі хочаце бачыць яе кіраўніка, то, калі ласка, ён перад вамі! — дзяўчынка ігрыва робіць рэверанс, настаўляе руку.**
**— Ты-ы кіраўні-ік? Хіба жарту-уеш?**
**— Не выглядаю?**
**І тут бачу — яна адно на выгляд такая маладзенькая. Фактычна яна — мая равесніца. І радасць у яе не дзіцячая, а**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Настаўнікі і канікулы

У якое прыгожае ўбранне апранулася прырода. Такі свежы і духмяны лес на сонцы.

Ярка цвітуць кветкі, густа зеляненюць палі. Жыта выкінула малады колас.

У гэтую пару вучні ўжо развіталіся са школай. Нам, педагогам, агульнавядома, што тое добрае, чаму навучылася дзіця ў школе, павінна замацоўвацца, паглыбляцца ў вольны ад вучобы час. Настаўнік абавязаны паклапаціцца аб тым, каб адпачынак у леце быў радасным і карысным. Каб дзеці не толькі набіралі сіл, замацоўвалі здароўе, загаралі на сонцы, загартоўваліся, але і многа чаго ўбачылі, аб многім пачулі, узбагацілі свае веды, пашырылі свой кругагляд.

Не ўсе, аднак, дзеці змогуць выехаць у лагеры, пайсці ў далёкія краязнаўчыя паходы ці вырушыць аўтастопам. Не ўсе трапяць на турысцкія сцежкі. Многія з іх значную частку лета правядуць дома. І аб такіх дзецях неабходна паклапаціцца настаўнікам.

Дзеці, якія астануцца дома па той ці іншай прычыне, павінны мець магчымасць прыйсці на сваю спартыўную пляцоўку пагуляць у футбол або валейбол, узяць у бібліятэцы кніжку, часопіс, газету. Летні адпачынак дзяцей будзе тады больш радасным, змястоўным і карысным.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Заўсёды гатовая

Пажарная каманда ў Дубічах Царкоўных была заснавана ў 1947 годзе. Дагэтуль у вёсцы не было ніякай супроцьпажарнай арганізацыі. Вядома, у час вайны было не да яе, а за санацыі ўрад мала звяртаў увагі і галоўнае амаль зусім не прызначаў грошай на пажарніцкае абсталяванне. А пажары былі, і то часта. У нас ўсё пачалося ад вясковага сходу. Ахвотных да арганізацыі назбіралася дастаткова, і ў склад супроцьпажарнай каманды ўвайшло некалькі дзесяткаў жыхараў. Было выбрана праўленне. За нейкі час ў вёску была прыведзена мотапомпа (слабейшая) і неабходныя прылады. Была таксама пабудавана чынам раміза з дошак. Пажарнікі ў вольны час трэніраваліся, а пасля былі і на пажары, які выбух у вёсцы восенню 1948 года. Як на першы раз, выпала нядрэнна. Каманда падчас пажару дзейнічала дружна, і агонь быў пагашаны. Пасля пажарнікі некалькі разоў ездзілі на пажары ў вёску Елёнку, дзе тады часта чамусьці яны выбухалі. Сваю ахвярнасць паказалі не словам, а чынам на многіх пажарах як, напрыклад: у Рэдутах, Чэхах Арлянскіх, Істоку, Хітрай, Грабаўцу, Рудцы і Вітаве...

Павятовыя ўлады пажарных каманд у Гайнаўцы зацікавіліся Дубіцкай камандай, і ў хуткім часе была заменена мотапомпа на сільную мотапомпу — М-800. Каманда пабагацела ва ўсё супрацьпажарнае абсталяванне. На жаль не было дзе яго хаваць, бо раміза з дошак была цесная. Праўленне і жыхары вёскі пачалі старацца пра будову новай рамізы. Прэзідыум ГРН у Дубічах падтрымаў іх прапанову.

Вясною 1959 года быў пабудаваны грамадскім чынам фундамент пад новую рамізу разам са святліцай. Будова аб'екта цягнулася некалькі год, і значную яе частку 50% выканалі жыхары вёскі грамадскім чынам. У 1964 годзе раміза са святліцай была гатовай.

За заслугі ў барацьбе з пажарамі ў 1965 годзе быў прыдзелены пажарніцкі самаход. Ездзіць ім Міхась Кірылюк. Цяпер дубіцкая пажарная каманда багата на ўсе неабходныя пажарніцкія прылады і складаецца з 16-ці асоб.

8 мая — пажарніцкае свята. У гэты ўрачысты дзень у Гайнаўцы была паказана баявая гатоўнасць паасобных пажарных каманд. Дубічы таксама былі там і паказалі дасканала сваё ўменне. Былі ўручаны ўзнагароды лепшым пажарнікам. З Дубіч атрымалі ўзнагароду — Сярэбраныя крыжы — камендант — Іван Герасімюк і прэзас каманды Міхась Чыквін.

Да лепшых пажарнікаў адносяцца: Міхась Семенюк, Павел Чыквін, Рыгор Карнілюк, Мікалай Млодзян, Мікалай Тамашук, Пятро Анапрыюк і іншыя.

Удзень і ўночы нашыя пажарнікі заўсёды гатовы ісці на ратунак людзей.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## Пажар

Гэтага дня з самага рання паказвала на тое, што дзень будзе гарачы. Расы не было. Дуў гарачы парывісты ўсходні вецер, неміласерна рвучы старыя насохшыя сялянскія саламяныя стрэхі.

Сяляне вёскі Рудакі з самага рання выйшлі на работу, хто капаць торф, а хто сенаваць. У вёсцы засталіся толькі няздольныя да прац, старыя і малыя.

Было каля гадзіны 15-ай.

Вецер прыціх. Гарачыня асела. У гэтую хвіліну пасярэдзіне вёскі вываліўся чорны дым, а над сенажаццю праняслiся страшныя словы... Па-жар...

Агонь разыходзіўся з неймавернай сілаю. Не прайшло і 15 мінут, а ў агню ўжо стаяла каля 40 будынкаў. За некалькі гадзін з вяковай працы сялян засталіся гурбы попелу і дагараючых галавешак.

На пажар хутка з'ехаліся пажарныя каманды з Каматоўцаў, Ласінян, Крушынян, Азяран, Крынак, Шудзялава, Саколкі і Гарадка. Ахвярным намаганнем не дапушчана агню распаўсюджвацца далей. Але што ўжо было ў агні, не ўратавана. На падзяку заслугоўвае і лекар пункту аховы здароўя ў Крушынянах грам. Януш Стахуля, які на пажар прыехаў і ўдзяліў першай лекарскай дапамогі тым, хто яе патрабаваў.

Пажар кончыўся. Попел астыў. Ліквідатары ПЗУ ацанілі высокасць шкоды. Прычына пажару яшчэ невядомая.

**Кастусь Патэльскі**
Крушыняны



**На плантацыі трускалак у Міхася Галубоўскага.**

## Паўлаўскія трускалкі

Сяляне Паўлаў маюць вялікія плянтацыі трускалак. Калі пачаўся скуп трускалак, гаспадары штодзённа дастаўляюць іх больш 20 тон. Штодзённа цэлымі сем'ямі выбіраюцца трускалкі ў спецыяльныя кошычкі. Кожны дзень скуп пачынаецца ў 14 гадзін. Прыязджае пад магазін па 200 фурманак і 5 самаходаў, якія вывозяць трускалкі з Паўлаў. Найбольшым плантатарам з'яўляецца Сяргей Філіпюк. Ён закантрактаваў 0,5 га трускалак.

**Тэкст і фота П. Зінкевіч**

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — „НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:**

Ад 1947 г. я арэндаваў ад Прэзідыум гарадской рады нарадовай зямельную дзялянку і штогод рэгуляваў арэндную плату. У 1965 годзе Прэзідыум аддало ўчастак пад будову аптэкі. Праўленне аптэк збурыла мой плот і знішчыла пладовыя дрэўцы, хаця дагавор арэнды не быў дэнансаваны і я, не будучы папярэджаны, не мог на час выкапаць дрэўцы і перанесці плот у іншае месца. Хто павінен адказваць за шкоду, бо адны гавораць, што адказное Праўленне аптэкі, іншыя — што Прэзідыум гарадской рады нарадовай, а яшчэ іншыя, што Прэз. ПРН, якое зацвердзіла перадачу зямлі аптэцы.

**Адказ:** Паколькі ўчастак перайшоў на ўласнасць Праўлення аптэк, толькі яно адказвае за шкоду, якая вам зроблена. Ані Прэзідыум горада, ані павета не былі абавязаны дэнансаваць умову.

Паводле абавязваючага права ўласнік можа прадаць участак, які ён аддаў у арэнду — нават у часе абавязвання ўмовы — у такім выпадку на таго, хто купіў участак, пераходзяць правы і абавязкі звязаныя з арэндай.

## АД ВОСЕНІ

Ад 1964 года ў Чыжах ёсць тэлевізар. Яго пакупку моладзь і старэйшыя весела сустрэлі. На жаль, карыстацца тэлевізарам доўга не прыйшлося. Пачаў ён псавацца. І вось тут стала бяда. Не было каму адвезці яго ў рамонт. Па некалькі тыдняў, а нават больш месяца, тэлевізар адпачываў і чакаў літасці ад людзей. Цяпер ужо зусім над тэлевізарам няма апекі. Грамадская рада таксама перастала цікавіцца яго лёсам. І так, чыжоўскі тэлевізар ужо ад восені стаіць сапсаваны, і зусім нікога гэта не хвалюе. Не хвалюе гэта ніводную арганізацыю нашай вёскі.

**Янка Грамадскі**
вёска Чыжы

**як у чалавека, які шмат перажыў і яшчэ не можа нацешыцца ўратаваннем. Чорт, не здагадацца мне адразу, што пад гэтым імем дзейнічае не адзін чалавек!**

**— Ліза Чапнік! — прадстаўляецца яна.**

**— Называй сябе як хочаш, але ты для мяне цяпер будзеш заўсёды Марусяй!**

**— О, зго-ода! — бліскае яна зубкамі. Гродзенская дзяўчына Ліза Чапнік перад ліквідацыяй гета ўцякла ў Беласток з дакументамі на польку і ўладкавалася сакратаркай ў гаўляйтэра. Пра свае перажыванні яна мне расказвала потым, іх хапіла б на добры раман. А цяпер, гледзячы на вутлае стварэнне, дзіўлюся: і здолела ж яно вадзіць за нос такіх важных фашыстаў, варочаці справамі!**

**— Чаго мы тут стаім? — ускрыквае Ліза - Маруся. — Хадзем да мяне, там якраз і немцы, антыфашысты!**

**— Мо і гаўляйтэр, з каторым ты прыязджала да бацькі? — І ё-он! І інжынеры з камбінатаў! І афіцэр з турмы! Усяго шэсць чалавек!**

**— Як жа вам удалося застацца? Фашысты ж прачосвалі дамы перад адступленнем, усё палілі, разбуралі?!**

**— А мы на нашай вуліцы паначаплялі дошак з надпісам: «Тыфус». Трое сутак прасядзелі ў бамбасховішчы. Ніхто да нас нават не заглянуў...**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**



**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

З'яўляюся вашай сталай чытачкай. Калі атрымаю «Ніву», перш за ўсё чытаю «Сардэчныя тайны».

Цяпер прыйшлося і самой прасіць парады. Мне яшчэ толькі 17 год. Прашу цябе, Сэрцайка, парай, дзе і як паступіць мне на якую-небудзь працу. Абы-якую працу, мо нават і да агародніка. Маю толькі пачатковую школу. Дома не магу быць. Мне вельмі цяжка. Парай, Сэрцайка.

**Яніна** з Гайнаўшчыны

**Дарагая Яніна!**

На жаль, цяжка мне сказаць, дзе можна атрымаць працу, бо мы гэтым не займаемся і не маем ніякага ўплыву на такія справы. Думаю, што цяжка табе будзе знайсці працу, бо ты яшчэ непаўналетняя. Аднак не значыць гэта, што адразу маеш рэзігнаваць. Ты павінна звярнуцца да пасрэдніцтва працы ў сваім павеце, мо яны маюць якую-небудзь працу для маладых дзяўчат. Цяпер многа прац сезонных і мо якраз якая-небудзь праца прыдзе табе па густу. Аднак як найхутчэй звярніся да пасрэдніцтва працы, бо сезонныя працы ўжо ў разгары.

Жадаю поспехаў
**Сэрцайка**



Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 470 | 380 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,50 | 1,50 |
| масла | кг. | 56 | 50 | 60 |
| ялавічына | кг. | — | — | — |
| свініна | кг. | 37 | 37 | — |
| сала | кг. | 33 | — | — |
| бульба | кг. | 3 | 3,50 | 3 |
| цыбуля | кг. | 10 | 6 | — |
| капуста | кг. | 3 | 7 | — |
| морква | кг. | 6 | 6 | — |
| буракі | кг. | 5 | 6 | — |

# КІНО

**Праграма**
**на 19—24. VII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Operacja Y" (radz.), 19—20. „Premiera odwołana" (NRD), 21—22. „Wielki skok" (franc.), 23—24.

**Кляшчэлі**

„Zakwitnie ziemia" (franc.), 19—20. „Inspektor i noc" (bułg.), 21—22. „Olbrzym" (USA), 23—24.

**Нарва**

„Opowieść znad Donu" (radz.), „Człowiek, który stchórzył" (czeski), 20—24.

**Нараўка**

„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A5126" (węgierski), 20—24.

**Чыжы**

„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 20—24.

**Орля**

„Droga przez cmentarz" (radz.), „Dwója z wychowania" (radz.), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Szkarłatne godło odwagi" (USA), „Miłość blondynki" (czeski), 20—24.

**Міхалова**

„Spacer po linie" (angl.), 19—20. „Cisza na sali operacja" 21—22. „Sposob bycia" (polski), 23—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Przyroda i my" (radz.), 19—20. „Umarli milczą" (radz.), I s. 21—22, „Umarli milczą" (radziecki), II s.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Yanko" (meksykański), 19—20. „Tak blisko nieba" (czeski), 21—22. „Kraksa" (radz.), 23—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Koniec naszego świata" (polski), „Kosmos wzywa" (radz.), 23—24.

**Тэатр імя А. Вянгеркі**
**(выязная група)**

**Чорна Беластоцкая**

„Ktoś nowy" — 19.VI.

**Саколка**

„Ktoś nowy" — 20.VI.

**Гарадок**

„Ktoś nowy" — 24.VI.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł. kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Bltk D-3

# НІЎКА

## САПРАЎДНЫ МУЖ

Гмырыка мы не тое што не любілі. Не, мы яго ненавідзелі. Ненавідзелі ўсёй сваёй лютай нянавісцю, на якую толькі і здатны былі мы, мужчыны дома № 15. Дый памяркуйце самі: як нам было не ненавідзець Гмырыка, калі ледзь пачынаецца дзень, так і чуеш ад жонкі:

— Ты вось у пасцелі валяешся, а Гмырык ужо бялізну памыў і вешае вунь на дварэ...

Ці:

— Ты газету чытаеш, а Гмырык даўно ў магазін збегаў, купіў, што трэба...

Ніхто з нас, мужчын, таксама не адмаўляўся памагчы ў чым-небудзь сваёй жонцы. Але ж уся наша помач не ішла ні ў якое параўнанне з тым, што рабіў Гмырык. А рабіў ён літаральна ўсё — і варыў, і мыў, і латаў, і цыраваў, не саромеўся нават у нядзельны дзень, калі ўсе дома, павесіць сушыць жончыны рэйтузы. І, вядома, як бы пасля гэтага мы ні памагалі сваім жонкам, — жонкі ўсё роўна былі незадаволеныя і пры ўсякім зручным выпадку калолі нам вочы Гмырыкам.

— Вось гэта муж! — не без зайздрасці гаварылі яны. — Сапраўдны муж.

Мы, мужчыны дома № 15, не ведалі, што рабіць і ўвесь час толькі тым і былі заняты, што шукалі спосаб, каб як-небудзь скампраметаваць у вачах нашых жонак непахісны аўтарытэт Гмырыка.

Але покалькі мы былі людзі нерашучыя і больш гаварылі, чым рабілі, дык год колькі цярпліва пераносілі ўсе папрокі жонак. І так, урэшце, да гэтых папрокаў прывыклі, што калі раптам у адзін дзень ні адна з нашых жонак не ўспомніла Гмырыка, мы пабеглі адзін да аднаго пытацца, у чым справа, чаму больш не ставяць нам у прыклад Гмырыка — ён жа, як і раней, бегае з авоськай па магазінах, мые, варыць, летае, цыруе, вешае бялізну... Мы адчувалі, што нешта здарылася непапраўнае, чаго жанчыны не даруюць нізавошта нікому, нават Гмырыку, але што — не ведалі. Між тым, мы заўважылі: жонкі нас пачалі шанаваць больш, як шанавалі, яны перасталі загадваць нам рабіць жаночую работу, а калі мы браліся рабіць яе самі, нас прасілі не сунуць нос, куды не просяць, маўляў, яны і самі не ўломкі. Аўтарытэт кожнага з нас у сям'і незвычайна вырас, і мы не здзіўляліся, калі нейкі мужчына перадаваў каму-небудзь з нас, што на свае вушы чуў, як недзе ў жаночай кампаніі жонка расхвальвала, які добры ў яе і чулы муж. Але чаму больш нашы жонкі не ўспаміналі Гмырыка, мы ўсё роўна не ведалі — жонкі трымалі гэта ад нас у вялікім сакрэце. Калі ж і ўспаміналі часам, дык адным толькі словам:

— Няготнік!

Кажуць, шыла ў мяшку не схаваеш. Хутка аднекуль выплыла, што Гмырык, гэтак добра ўхажваючы за сваёю жонкаю, яшчэ лепей ухажваў за другою жанчынаю — ўдавою, і тая ўдава нават нарадзіла ад яго дзіця...

Канешне, з чужой бяды не смяюцца, а тым больш не радуюцца. Няхай нам даруюць людзі, але ж мы, мужчыны дома № 15, радаваліся падзенню Гмырыка і ад душы з яго смяяліся:

— Папраўдзе, сапраўдны муж...

**Барыс Сачанка**

— Я б ахвотна скупаўся, але тут так глыбока, а я не ўмею плываць.



— Пеце?
— Калі пачастуеце...



— Спакойнай ночы!

### І ТАК БЫВАЕ

У горадзе другі гадок
Антон жыве.
Ён мову матчыну цяпер
Благой заве.

**В. Пчолка**




Пазбягаў людзей, і яго пераехала машына.

## ДУМЫ ЯСЕВІ АПАЛОНІКА

**Гарантыі выдаюцца таму, што ёсць недахопы.**

*

**Хто мае тэлевізар — мае тэлевізійныя недахопы.**

*

**Аб нараканні ў адзіноцтве ніхто не ведае.**
**Каб выдалі энцыклапедыю людской крыўды, была б гэта найбольшая кніжка.**

*

**Вялікія гаспадарчыя арганізмы надта цяжка лячыць.**

### АПОШНІ НАКАЗ

Адзін гаспадар рамантаваў дах і, паслізнуўшыся, сарваўся. Праляцаючы міма акна, ён крыкнуў:

— Жонка, сёння гатуй на аднаго менш!

### РАСШЧОДРЫЎСЯ

Да скупога Макара прыйшлі госці. Пасядзелі, пагаварылі. Жонка шапнула яму:

— Прапануй гасцям чаго-небудзь прахаладжальнага.

— Зараз! — адказаў Макар і шырока расчыніў вокны.

### ЗАНАДТА НІЗКА

Прыходзіць Сцяпан у гасцініцу.

— Колькі бярэце за ноч?

— За нумар на першым паверсе сто злотых, на другім — восемдзесят, на трэцім — шэсцьдзесят і на чацвёртым — сорак.

Сцяпан падумаў — падумаў і падаўся да выхаду.

— Хіба вы не застанецеся ў нас? — кінуўся наўздагон адміністратар.

— Не! Пашукаю гасцініцу вышэйшую.

### ХІТРУН

— За колькі ты давязеш мяне да вакзала? — спытаў селянін у рамізніка.

— За дзесяць злотых.

— А колькі возьмеш за багаж?

— Нічога.

— Тады вязі багаж, а я пайду пешшу.



— У час раздавання пасведчанняў я крыху спазніўся, і выдалі мне найгоршае.



Усё людское нам не чужое.

Словы А. Ставера — Муз. Я. Цехановіча

## КАЛЯ ТЫНУ




Хмель зялёны каля тыну павіваўся...
Я ў дзяўчыну, у Галіну закахаўся.
Дзе ні сяду, дзе ні стану, — аб ёй думы.
Без яе я сохну, вяну, — ціхі, сумны.

Ой, пайду я ў луг мурожны, у даліну, —
Можа ўбачу, стрэну можа там Галіну.
Калі стрэну, калі ўбачу дарагую,
Аб пачуццях аб гарачых раскажу ёй...

А не стрэну — адзінокі заспяваю,
Сум паведаю глыбокі полю, гаю...
Хмель зялёны каля тыну павіваўся...
Не на жарты я ў Галіну закахаўся...